© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Андрэй Казакевіч, Андрэй Асадчы

# Пачаць пісаць па-беларуску. Рэгіянальны і сацыяльны склад беларускага адраджэння, канец XIX – пачатак XX стагоддзя[1]

*Калі б усе індывіды ў пэўным грамадстве належалі да адной і той жа культуры, у паняцці «народная культура» не было б ніякай патрэбы.*

Пітэр Бэрк

Намаганні аб'яднаць супольнасць для дасягнення агульнай мэты патрабуюць існавання інстытутаў, што прадугледжвае зніжэнне разнастайнасці, адбор асобных элементаў ды ігнараванне рэшты.[2] У выніку супольнасць робіцца больш аднароднаю, пры гэтым абраны прынцып адбору можа працяглы час уплываць на развіццё інстытутаў і супольнасці. «Залежнасць ад выбранага шляху» (path dependence) вызначае траекторыі далейшага развіцця, якія бывае цяжка змяніць (гл., напрыклад: Pierson, 2004: 17–53).

Улічваючы фактар path dependence, асаблівае значэнне набывае вывучэнне і аналіз пачатку фармавання інстытута або супольнасці. Гэтак, напрыканцы XIX – напачатку XX стагоддзя беларускі нацыянальны рух (а праз яго і беларусы як этнічная супольнасць) мусіў вырашыць задачу зніжэння разнастайнасці ды селекцыі асобных палітычных і культурных элементаў. У такім рэчышчы можна разумець дыскусіі таго часу пра нацыянальную ідэнтычнасць. Трэба заўважыць, што выбар стратэгіі быў дастаткова абмежаваны.

[1] Андрэй Казакевіч: метадалогія, апрацоўка матэрыялу і асноўныя інтэрпрэтацыі. Андрэй Асадчы: збор матэрыялу, гістарыяграфія праблемы.

[2] Асабліва паказальнае тут было фармаванне літаратурнай мовы – працэс, які заўсёды азначае селекцыю і ўпарадкаванне лінгвістычнага масіву.

Са звычайнага набору – дзяржава, грамадскія структуры, царква, высокая культура і г. д. – даступнымі былі толькі этнічная культура і мова (Казакевіч, 2010: 28).

У такой сітуацыі выключнае месца ў беларускім руху займала легітымацыя культуры і мовы праз інстытуцыялізацыю літаратурнай дзейнасці. У значнай ступені пачатак *нацыянальнага адраджэння* як феномену на зломе XIX і XX стагоддзяў праяўляўся менавіта ў пераходзе да літаратурнай і публіцыстычнай дзейнасці на беларускай мове, што азначала пераадоленне культурных і палітычных бар'ераў, стварэнне новай традыцыі. Людзі, якія ўключыліся ў гэты адначасова сацыялінгвістычны і палітычны працэс, і склалі першую генерацыю носьбітаў беларускай культуры ўжо ў нацыянальным, а не этнічным разуменні.

Працэс *беларускага адраджэння* (калі выкарыстоўваць тэрміналогію саміх удзельнікаў)[3] меў сваё сацыяльнае, дэмаграфічнае, а таксама тэрытарыяльнае і часавае вымярэнне. Уласна, іх разгляд будзе асноўным фокусам увагі гэтага артыкула. Нас галоўным чынам цікавяць першыя актыўныя ўдзельнікі культурнага руху як асаблівая сацыяльная і палітычная група. Даследаванне яе структуры дазволіць больш дакладна зразумець пачатак інстытуцыялізацыі новай нацыянальнай супольнасці на аснове этнічнай культуры і мовы.

Ёсць падставы меркаваць, што асобныя рэгіёны, прафесійныя і сацыяльныя групы насельніцтва паўночна-заходніх губерняў Расійскай імперыі праяўлялі розную ступень актыўнасці на першым этапе нацыятворчага працэсу беларусаў. Аналіз супольнасці актыўных удзельнікаў руху дазволіць пабачыць сегменты, праз якія адбывалася крышталізацыя і афармленне новых інстытутаў і нормаў. Такім чынам, мы паспрабуем больш дакладна лакалізаваць першы этап беларускага нацыятворчага працэсу з геаграфічнага, сацыялагічнага і дэмаграфічнага пунктаў гледжання.

## I. Метады і стратэгія даследавання

Самая пашыраная стратэгія вывучэння беларускага нацыянальнага руху – засяроджанне на дзейнасці найбольш важных інстытутаў: культурных і грамадскіх арганізацыяў, друкаваных выданняў, партыяў і г. д. Пры гэтым асноўная ўвага надаецца палітычным і культурным лідарам, творчая і практычная дзейнасць якіх, відаць, (перад)вызначала траекторыю і сэнсавае напаўненне працэсу (Біч, 1994; Каўка, 1993; Сідарэвіч, 2009; Туронак, 2006; Шыбека, 2003 ды інш.). Хаця мы прызнаем істотнасць такога падыходу пры разглядзе эвалюцыі нацыятворчых працэсаў, нашая мэта – крыху змясціць

[3] Пры гэтым у беларускай публіцыстыцы і літаратуры таго часу адраджэнне, магчыма, нават часцей разумелася не як «вяртанне да мінулага», але атрыманне годнага або роўнага статуса ў параўнанні з іншымі народамі.

фокус аналізу з асобаў як індывідуальных актараў на групы. Падаецца, што адыход ад канцэнтрацыі ўвагі на ключавых асобах можа даць больш поўнае разуменне нацыятварэння як сацыяльнага працэсу. Гэта тым больш мае сэнс, што матэрыял пра культурнае і палітычнае развіццё Беларусі канца XIX – пачатку XX стагоддзяў, назапашаны гісторыкамі і даследнікамі літаратуры, дазваляе правесці неабходнае абагульненне і сістэматызацыю.

Цэнтральнаю праблемаю пры даследаванні групы дзеячаў беларускай культуры, як і ва ўсіх такіх выпадках, ёсць вызначэнне межаў такой групы і крытэр адбору. Пры гэтым выніковае кола людзей мусіць быць дастаткова шырокае, каб дазволіць фіксаваць істотныя надіндывідуальныя тэндэнцыі. Таму базавым крытэрам для вылучэння мы абралі адзін – друкаванне больш-менш значных тэкстаў на беларускай мове ў перыяд 1880–1918 гадоў.[4] Гэты крытэр абумоўлены шматлікімі фактарамі і ёсць, на нашую думку, дастаткова надзейным.

Лінгвістычны фактар быў надзвычай істотны для ўсіх нацыянальных рухаў рэгіёну, таму ўдзел у фармаванні літаратурнай мовы выглядаў важным палітычным крокам. Літаратурная і публіцыстычная актыўнасць была асноўнаю, а часта і адзінаю ўласна беларускаю культурнаю практыкаю ў акрэслены перыяд. Натуральна, культурныя практыкі таксама дапаўняліся даследчай і выдавецкаю дзейнасцю, але ў адрозненне ад літаратурнага працэсу разглядаць іх як самастойны кірунак дзейнасці актывістаў беларускага руху ў адзначаны перыяд даволі складана.

Пазначаная «лінгвацэнтрычнасць» можа быць прадметам істотнай крытыкі з прычыны ігнаравання польскамоўных («краёўцаў») і рускамоўных («заходнерусаў») аўтараў. У гэтай сувязі варта адзначыць, што ў нашую выбарку трапляюць дзеячы, якія пісалі на розных мовах (але ў выпадку, калі адною з іх была беларуская). Актыўны ўдзел у беларускім культурным руху, але без публікацыяў на беларускай мове варта разглядаць як спецыфічны выпадак, што патрабуе фармулявання дадатковых крытэраў. Трэба адзначыць, што такія выпадкі, калі і мелі месца, былі адзінкавыя, таму іх улік не акажа значнага ўплыву на выніковую статыстыку.

Што тычыцца выдзялення «значных» для акрэсленага перыяду тэкстаў, то ў гэтым пытанні мы цалкам грунтуемся на надзейнасці селекцыі, праведзенай некалькімі пакаленнямі даследнікаў беларускага руху і літаратуры, сярод якіх Сцяпан Александровіч, Ірына Багдановіч, Уладзімір Казбярук, Генадзь Кісялёў, Алег Лойка, Адам Мальдзіс, Рыгор Семашкевіч, Іван Шамякін і інш.

Прадметам нашага разгляду сталіся ўсе асобы, якія апублікавалі літаратурныя і публіцыстычныя тэксты

---

[4] Гэта азначае, што асоба, якая пачала пісаць па-польску, напрыклад, у 1904 годзе, а па-беларуску – у 1919 годзе, у нашу выбарку не трапляе. У адпаведнасці з логікаю даследавання гэта ўжо іншая генерацыя *адраджэння*.

на беларускай мове, дастатковыя для таго, каб трапіць у энцыклапедычныя выданні. У якасці базавай крыніцы выкарыстоўвалася найбольш грунтоўная праца беларускіх даследнікаў літаратуры – энцыклапедыя «Беларускія пісьменнікі» ў шасці тамах (1993–1995). У гэтай энцыклапедыі прадстаўленыя больш за 1100 артыкулаў, у якіх змешчаныя поўныя і сістэматызаваныя звесткі пра жыццё і дзейнасць прадстаўнікоў беларускай літаратуры, а таксама бібліяграфічныя звесткі пра больш як 600 тысячаў розных публікацыяў. У якасці дадатковай крыніцы для праверкі і ўдакладнення некаторых біяграфічных звестак выкарыстоўвалася найбольш сістэмнае і грунтоўнае выданне па гісторыі Беларусі – «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» ў шасці тамах (1993–2003).

Усяго па выніках аналізу матэрыялаў з біяграфічнымі і бібліяграфічнымі звесткамі мы склалі спіс з 96 асобаў, якія так або інакш пакінулі свой след у літаратурнай гісторыі Беларусі (гл. дадатак 1). Складзены спіс, як падаецца, дастаткова прадстаўнічы, што, на нашую думку, дае магчымасць фіксаваць надіндывідуальныя тэндэнцыі. Тым не менш, гэтая група патрабуе далейшага пашырэння ў межах новых даследаванняў. Асобнаю праблемаю для аналізу трэба назваць нераўнамернасць наяўнай інфармацыі. З гэтай прычыны колькасны склад групы паводле розных параметраў адрозніваецца, што асобна пазначаецца ў кожным выпадку.

*Часавыя рамкі даследавання.* Абраныя часавыя рамкі даследавання для першай хвалі беларускага адраджэння выглядаюць дастаткова натуральнымі – 1880–1918 гады. Верхняя мяжа, як падаецца, не патрабуе дэталёвага абгрунтавання. Пасля краху Расійскай імперыі, завяршэння Першай сусветнай вайны і абвяшчэння БНР беларускі рух пачаў развівацца ў зусім іншых умовах. Адбылася значная палітычная мабілізацыя ў форме прыходу беларускіх актывістаў у палітычныя партыі ды арганізацыі. Моцна паспрыяла гэтаму працэсу адміністрацыйнае афармленне краю праз спробу стварыць незалежную дзяржаву або аўтаномію на рэгіянальнай, польскай або савецкай аснове. Усе гэтыя працэсы, а таксама падзел Беларусі ў 1921 годзе ды інстытуцыйнае афармленне БССР цалкам змянілі палітычны статус беларускай мовы і культуры, а таксама логіку і механізмы развіцця культурнага руху.

Выбар ніжняй мяжы – 1880 год – звязаны з пачаткам уласнабеларускага культурнага руху. З 1880-х можна ўпэўнена казаць пра наўпроставую пераемнасць беларускай літаратурнай (культурнай) традыцыі, хаця некаторыя даследнікі выводзяць яе толькі з выдання «Дудкі беларускай» Францішка Багушэвіча ў 1891 годзе (Турук; 1921). Акрамя гэтага, менавіта ў 1880-я гады адзначаюцца відавочны рост колькасці новых аўтараў ды пашырэнне сярод беларусаў культурнага і моўнага руху, а таксама палітычнай актыўнасці.[5]

[5] Менавіта на канец 1870-х – 1880-я гады прыпадае пачатак актыўнай дзейнасці беларускіх народнікаў, у тым ліку выданне часопіса «Гоман». У якасці прыкладу адлюстравання беларускай праблематыкі ў іншым фармаце можна прывесці публікацыі ў газеце «Минский листок».

На аснове матэрыялаў па гісторыі беларускай літаратуры можна праілюстраваць якасныя змены, што адбыліся ў 1880-я. У 1840-я гады з'явіліся два значныя аўтары з тэкстамі на беларускай мове. У наступнае дзесяцігоддзе колькасць новых аўтараў вырасла да пяці. З 1860-х заўважаецца зніжэнне рэкрутацыі да двух, а ў 1870-х – да нуля. Паміж 1880 і 1889 гадамі ў літаратурны працэс уключыліся сем аўтараў, што нават больш, чым у 1890–1899 гадах. Акрамя гэтага, менавіта ў 1880-я публікацыі пра беларускую гісторыю і этнічную культуру набылі сістэматычны характар, аформіўшыся ў асобны даследчы кірунак, што мела выключна станоўчы ўплыў на развіццё культурнага руху і прыцягненне новых актывістаў.

*Асноўныя параметры аналізу*. Як адзначалася вышэй, паўставанне беларускага руху было шматузроўневым працэсам, што меў свае сацыяльныя, дэмаграфічныя і тэрытарыяльныя вымярэнні.[6] Гэтыя вымярэнні мы будзем фіксаваць праз пэўны завершаны набор параметраў.

*Тэрытарыяльнае вымярэнне* аналізуецца праз разгляд месца нараджэння і месца смерці ўдзельнікаў культурнага руху. Мяркуецца, што гэта дазволіць нам вызначыць тэрытарыяльную аснову беларускага нацыянальнага руху, а таксама ўплыў далучэння да «беларускай справы» на пэўную жыццёвую траекторыю.

Пад *дэмаграфічным вымярэннем* мы маем на ўвазе набор наступных звестак: год нараджэння, узрост далучэння да культурнага руху, працягласць жыцця і дата смерці.

Пад *сацыяльным вымярэннем* у межах даследавання маецца на ўвазе: сацыяльнае паходжанне, адукацыя, абраная прафесія і прычына (абставіны) смерці. У выніку паўстаюць дзесяць параметраў, якія, на нашую думку, дапамогуць больш глыбока зразумець абставіны фармавання беларускага культурнага руху і прыроду нацыятварэння ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзяў.

## II. Геаграфія нараджэння

Пытанне прасторавай лакалізацыі нацыятворчага працэсу дастаткова істотнае для разумення акалічнасцяў яго паўставання. Звычайна рэгіёны праяўляюць розную актыўнасць у культурных і палітычных рухах, цэнтры «крышталізацыі» нацыі могуць міграваць у прасторы. Калі фармаванне нацыі адбываецца на аснове дзяржавы, палітычныя, эканамічныя і нацыятворчыя цэнтры звычайна супадаюць. Пры фармаванні нацыі без дзяржаўнага падмурку сітуацыя значна мяняецца. Істотнае значэнне набываюць зоны і рэгіёны з больш спрыяльнымі ўмовамі для культурнай і палітычнай дзейнасці, дзе непасрэдны кантроль з боку кіроўнага цэнтру крыху аслаблены,

6 Падзел на вымярэнні вельмі ўмоўны і не мае для нас прынцыповага значэння (у адрозненне ад параметраў), таму мы не будзем падрабязна спыняцца на яго апісанні.

напрыклад, у выніку таго, што адпаведны рух не разглядаецца як пагроза стабільнасці ўлады.

Наяўнасць тэрыторыі, дзе культурная або палітычная дзейнасць можа весціся адносна свабодна, значна спрашчае задачы нацыянальнага руху. У такіх умовах не існуе значных перашкодаў для фармавання культурнай і палітычнай эліты, новай уласнай культурнай традыцыі, сістэмы базавых ідэяў. Класічным прыкладам такой тэрыторыі быў італьянскі П'емонт. Яскравымі прыкладамі з нашага рэгіёну можна назваць Усходнюю Прусію для літоўцаў і Галіцыю для ўкраінцаў. Для беларускага нацыянальнага руху такіх спрыяльных умоваў не было. Уся тэрыторыя рассялення беларусаў уваходзіла ў склад Расійскай імперыі ў якасці некалькіх губерняў Паўночна-Заходняга краю і пры гэтым была прасторай руска-польскай барацьбы за культурны ўплыў на мясцовае насельніцтва.

Пошук адносна спрыяльных зонаў для дзейнасці беларускіх актывістаў прыводзіць у буйныя гарады – галоўным чынам у Вільню і Санкт-Пецярбург, хаця ніводнае месца на той час не было спрыяльнае ў дастатковай ступені. Гэтыя цэнтры паўставання інстытутаў беларускага культурнага і палітычнага руху (перыядычныя выданні, арганізацыі ды г. д.) даволі падрабязна апісаныя ў беларускай гістарыяграфіі (Туронак, 2006; Сідарэвіч, 2007 і інш.). Таму ў межах гэтага раздзелу мы паспрабуем засяродзіць нашую ўвагу на іншым аспекце тэрытарыяльнага размеркавання – месцах, дзе нацыянальная агітацыя знаходзіла найбольшы водгук, дзе магла існаваць больш развітая сістэма камунікацыі ды адпаведная інфраструктура, дзе адбывалася рэкрутацыя ў беларускі культурны рух канца XIX – першай паловы XX стагоддзяў. Вызначыць гэта мы паспрабуем на аснове аналізу месцаў нараджэння прадстаўнікоў нацыянальнага руху.

Наданне значнага палітычнага і сацыяльнага зместу месцу нараджэння можа быць прадметам слушнай крытыкі. Істотным, натуральна, ёсць не само месца нараджэння, а асяроддзе сацыялізацыі, якое магло паўплываць на далучэнне да нацыянальнага руху. У асобных выпадках месца нараджэння можа ўвогуле нічога не значыць, калі сям'я хутка пераехала, часта мяняла месцы жыхарства або жыла ў культурнай ізаляцыі. Прымаючы гэтыя абмежаванні, мы мусім прызнаць, што атрыманыя звесткі будуць мець значэнне толькі ў тым выпадку, калі розніца паміж рэгіёнамі будзе абсалютна відавочная. Акрамя гэтага, варта памятаць, што ўзровень мабільнасці ў гэты гістарычны перыяд быў не надта высокі, таму месца нараджэння вельмі часта супадала з месцам сацыялізацыі ды нават месцам нараджэння бацькоў.

*Геаграфічны цэнтр беларускага адраджэння.* Як адзначалася вышэй, выбар месца нараджэння ў якасці істотнага чынніку пры аналізе фактаў біяграфіі можа быць прадметам крытыкі. Па-першае, населены пункт нараджэння не абавязкова сведчыць пра месца сацыялізацыі; па-другое, не вызначае сацыяльнага

і культурнага кантэксту, які ў межах аднаго горада або мястэчка мог быць вельмі розны. Але, тым не менш, атрыманая статыстыка народжаных у розных паветах нават адной губерні ўтрымлівае значныя адрозненні, што, на нашую думку, нават улічваючы ўсе абмежаванні, адлюстроўвае сутнасныя і відавочныя тэндэнцыі.

Безумоўным цэнтрам культурнага руху, калі зыходзіць з месца нараджэння беларускіх аўтараў канца XIX – пачатку XX стагоддзяў, выступаюць чатыры паветы, якія ўтвараюць цэласны тэрытарыяльны арэал, што цягнецца па цэнтральнай частцы тэрыторыі Беларусі: Вілейскі (12), Менскі (12), Слуцкі (10) і Віленскі (9) паветы. На гэтай тэрыторыі нарадзіліся 43 аўтары, што складае амаль палову (каля 45 %) ад агульнай колькасці дзеячаў беларускага культурнага руху пазначанага перыяду.

Трэба адзначыць, што пазначаны рэгіён абсалютна неаднародны з усіх пунктаў гледжання – як паводле рэлігійнага і этнічнага складу, так і паводле ступені ўрбанізацыі. У рэгіён трапляе як пераважна каталіцкая Віленшчына, так і пераважна праваслаўная Случчына, акрамя іх сюды належаць і змешаныя паводле свайго канфесійнага характару Меншчына і Вілейшчына. Што тычыцца этнічнага складу насельніцтва гэтых тэрыторыяў, то, як паказвае перапіс 1897 года, большую частку жыхароў усіх паветаў, акрамя Віленскага, складалі этнічныя беларусы. Пры гэтым у кожным з паветаў прысутнічала польская і габрэйская меншасць, але паводле гэтай прыкметы паветы мала адрозніваліся ад шэрагу іншых.

У Вілейскім павеце беларусы складалі 86,9 % насельніцтва, у Слуцкім – 78,5 %, у Менскім і Віленскім – 59,2 % і 25,8 % адпаведна. Нізкія паказнікі колькасці беларускага насельніцтва ў апошніх двух паветах тлумачацца высокаю доляю гарадскога насельніцтва ў Менску (90,9 тысячы чалавек з 277,2 тысячы жыхароў павета) і Вільні (154,5 тысячы чалавек з 363,3 тысячы), у якім значную большасць складалі габрэі, а доля беларусаў была даволі нізкая (у Менску – 9 %, у Вільні – 4,2 %).[7]

Тым не менш, гэтыя гарады сталіся значнымі асяродкамі беларускай актыўнасці. У Вільні нарадзіліся шэсць беларускіх аўтараў, а гэта больш чым у якім іншым горадзе; у Менску – пяць, што ставіць яго на другое месца. Значэнне Вілейскага і Слуцкага паветаў цяжэй патлумачыць фактарам урбанізацыі, бо доля гарадскога насельніцтва тут была нязначная. Гэтак, напрыклад, з 208 тысяч жыхароў Вілейскага павету толькі 3560 чалавек жылі ў Вілейцы і 2615 асобаў у Радашковічах; а ў Слуцкім павеце з 260,5 тысячы чалавек у Слуцку жылі 14.349 чалавек, у Нясвіжы – 8459. Пры гэтым у Слуцку нарадзілася два аўтары, у Вілейцы толькі адзін.

Патлумачыць гэтую сітуацыю можна праз канкурэнцыю нацыяналізмаў у гэтым рэгіёне (польскага, беларускага, часткова літоўскага і

7 Тут і далей звесткі пра колькасць насельніцтва прыводзяцца па выніках перапісу 1897 года.

рускага). Гэта, відаць, не перашкаджала, а наадварот, спрыяла этнічнай і нацыянальнай мабілізацыі мясцовага беларускага насельніцтва. Прынамсі, ідэі «нацыі», «народу» і «мовы» былі больш зразумелыя на розных узроўнях грамадства.

Акрамя пазначанага вышэй відавочнага «цэнтру» мы можам акрэсліць і паветы, якія склалі «дадатковы» пояс. У Віленскай губерні трэба адзначыць Дзісенскі (6) і Ашмянскі (4) паветы; у Гарадзенскай губерні – Сакольскі (4) і Слонімскі (4), значнай канцэнтрацыі дзеячаў у іншых паветах гэтай губерні не назіраецца. Дапаўняе арэал Наваградскі павет Менскай губерні (5). У астатніх паветах Беларусі і Літвы нарадзілася ад нуля да двух аўтараў, што значна павялічвае фактар выпадковасці. З гэтай прычыны ўсе астатнія тэрыторыі можна аднесці да «ўскраіны» або «перыферыі» культурнага адраджэння канца XIX – пачатку XX стагоддзя (гл. малюнак 1).

Калі разглядаць сітуацыю на ўзроўні губерняў, то абсалютным лідарам выступае Віленская – тут нарадзіліся 35 чалавек, што складае 36,5 % ад агульнай колькасці дзеячаў, якія патрапілі ў спіс. Пры гэтым, як адзначалася вышэй, асаблівае значэнне маюць Віленскі, Вілейскі, Дзісенскі і Ашмянскі паветы. Амаль такі самы паказнік мае Менская губерня – 34 асобы. Тут відавочнымі лідарам выступілі Менскі, Слуцкі і Наваградскі паветы. Гэтыя дзве губерні ўтвараюць цэнтр развіцця культурнага руху. Больш як удвая саступае ім у значнасці Гарадзенская губерня (12 чалавек), пры гэтым у ёй месцы нараджэння аўтараў раскіданыя без асаблівай канцэнтрацыі (ад 0 да 4 чалавек), але базавымі тут можна лічыць Сакольскі і Слонімскі паветы. Рэшта губерняў Паўночна-Заходняга краю значна саступае ў колькасці прадстаўніцтва. У Віцебскай губерні нарадзіліся толькі чатыры беларускія аўтары, у Магілёўскай – таксама чатыры (ад 0 да 2 чалавек на павет). Гл. табліцу 1.

Прыведзеныя звесткі мусяць адлюстроўваць пэўныя тэндэнцыі. Перш за ўсё, варта адзначыць, што раёны з вялікаю канцэнтрацыяй месца нараджэння беларускіх аўтараў утвараюць цэласны арэал, які крыху розніцца ад звыклых стэрэатыпаў: Вілейшчына, Меншчына, Случчына. Арэал можна пашырыць Віленскім паветам, але галоўным чынам з-за значнасці самой Вільні. Аналізуючы іншыя аспекты размеркавання таксама варта адзначыць «сярэднюю» актыўнасць Гарадзеншчыны, асабліва ў заходніх паветах.

## III. Сям'я і сацыяльнае паходжанне

Нягледзячы на тое што сацыяльны характар беларускага нацыянальнага руху застаецца прадметам сталых дыскусіяў, адмысловых даследаванняў, прысвечаных аналізу сацыяльнага паходжання яго дзеячаў, у беларускай гістарыяграфіі няма. Даследнікі пераважна надаюць увагу вывучэнню ідэйнай накіраванасці руху, пакідаючы па-за ўвагаю дэталёвы аналіз сацыяльнага паходжання. Такі падыход мае свой уплыў на




**Малюнак 1. Геаграфічны «цэнтр» культурнага адраджэння канца XIX – пачатку XX стагоддзя (N=43 з 96 асоб выбаркі)**

фармаванне пэўных стэрэатыпаў, і вельмі часта ідэалагічная накіраванасць той або іншай палітычнай групы руху атаясамліваецца з сацыяльным паходжаннем.

У савецкай гістарыяграфіі асноўны ўхіл рабіўся на падмацаванне марксісцкіх схемаў. Крытыкі беларускага руху шукалі ў ім праявы (дробнай) «буржуазнасці» (Турук, 1921; Гаруновіч, 1930; Абэцэдарскі, 1969; Карнейчык, 1969 і інш). Такі падыход характэрны і для прадстаўнікоў афіцыйнай дзяржаўнай гістарыяграфіі ўжо ў перыяд незалежнасці Беларусі (Трещенок, 2005 ды інш.). Ідэі пра шляхецкі характар беларускага руху і яго адарванасць ад сялянскіх масаў паўтаралі і некаторыя іншыя аўтары. Шляхецкаю (польска-каталіцкаю) асноваю беларускага руху тлумачыцца яго культурнае, сацыяльнае і палітычнае дыстанцыяванне ад пераважна праваслаўнага сялянства.

Супрацьлеглае бачанне – разуменне беларускага руху як сялянскага




**Малюнак 2. «Цэнтр» і «дадатковы пояс» культурнага адраджэння XIX – пачатку XX стагоддзя (N=66 з 96 асоб выбаркі)**

(народніцкага) паводле свайго характару – таксама даволі пашыраная з'ява (Ігнатоўскі, 1925; Біч, 1994; Сідарэвіч, 2001 і інш.). Такая пазіцыя ў адлюстраванні характару руху распаўсюджаная і ў працах асобных заходніх аўтараў. Як прыклад можна ўзгадаць вядомае даследаванне Нікаласа Вакара (Vakar, 1956), якое мела ўплыў на англамоўную аўдыторыю. У сувязі з абмежаванаю колькасцю працаў на англійскай мове, прысвечаных беларускай праблематыцы, пэўны ўплыў дагэтуль мае канцэпцыя плебейскасці руху.

Ідэя пра сялянскі характар беларускага руху застаецца вельмі папулярнай і ў польскай гістарыяграфіі (Радзік, 1995). Часта з дапамогаю адпаведных тэзісаў даследнікі спрабуюць тлумачыць слабасць нацыянальнага руху і няздольнасць стварыць моцную кааліцыю з больш адукаванымі грамадскімі пластамі.

Адсутнасць адмысловых даследаванняў і наяўнасць розных пады-

Паветы, у якіх нарадзілася 9-12 актыўных удзельнікаў культурнага руху
Паветы, у якіх нарадзілася 4-6 актыўных удзельніка культурнага руху
Паветы, у якіх нарадзілася 2 актыўных удзельніка культурнага руху




**Малюнак 3. «Цэнтр», «дадатковы пояс» і «ўскраіна» культурнага адраджэння канца XIX – пачатку XX стагоддзя (N=82 з 96 асоб выбаркі)**

ходаў у адлюстраванні сацыяльнага паходжання руху надае значнасць спробам назапасіць адпаведны матэрыял. Наш аналіз сацыяльнага паходжання прадстаўнікоў беларускага культурнага руху канца XIX – пачатку XX стагоддзя дае магчымасць асвятліць пытанне больш падрабязна (гл. табліцу 2).

Сацыяльнае паходжанне ўдалося зафіксаваць для 77 асобаў. Праведзеныя падлікі даюць падставы казаць пра дастаткова збалансаваную структуру пачынальнікаў культурнага руху. Самая вялікая група – гэта выхадцы з сялянскіх сем'яў, якія складаюць крыху больш за трацiну ад агульнай колькасці (35,1%), што пацвярджае вялікае значэнне сялянскага элементу. Але пры гэтым практычна столькі ж (31,2%) складаюць асобы шляхецкага паходжання, якія ўтварылі другі сацыяльны полюс. Яшчэ трацiна – гэта выхадцы з

**Табліца 1. Геаграфія нараджэння актыўных удзельнікаў культурнага руху (N= 96)[8]**

| Губерня | Чалавек | % |
|---|---|---|
| Віленская | 35 | 36,45 |
| Віцебская | 4 | 4,17 |
| Гарадзенская | 12 | 12,50 |
| Магілёўская | 4 | 4,17 |
| Менская | 34 | 35,42 |
| Ковенская | 2 | 2,08 |
| Чарнігаўская | 1 | 1,04 |
| Смаленская | 0 | 0,00 |
| Іншыя | 4 | 4,17 |
| Разам | 96 | 100 |

іншых сацыяльных групаў: працоўныя, службоўцы, інтэлігенцыя і г. д.

Гэтыя звесткі дазваляюць разглядаць беларускі культурны рух як збалансаваную кааліцыю выхадцаў з сялянства, шляхты ды іншых сацыяльных пластоў. Для паўнейшага разумення карціны параўнаем склад беларускага руху з сацыяльнаю структураю беларусаў паводле перапісу 1897 года. Гэтак, прадстаўніцтва шляхты ў культурным руху было значна вышэйшае за яе долю ў структуры беларускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю (1,77 % паводле перапісу), сялянаў – значна ніжэйшае (92,14% паводле перапісу). Але такую сітуацыю можна лічыць заканамерным вынікам няроўнасці ва ўзроўні пісьменнасці. Пры аналізе сацыяльнага паходжання варта адзначыць невысокае значэнне дзеячаў, якія паходзілі з сямей святароў – 2,6 %, што пацвярджае невялікі ўплыў рэлігійных інстытутаў на беларускае адраджэнне. Невялікую ролю мела і інтэлігенцыя – 6,5 % .

## IV. Генерацыі, узрост далучэння, інтэнсіўнасць рэкрутавання

У агульных рысах дэмаграфічны профіль беларускага нацыянальнага руху дастаткова вядомы. Адзначаецца, што «беларускаю справаю» займаліся пераважна маладыя людзі, якія мелі генерацыйны разрыў з папярэднімі пакаленнямі ў выбары сацыяльных стратэгіяў, ідэяў, метадаў культурнай працы і г. д. Пры гэтым «маладосць» – дастаткова размыты і шматзначны параметр, таму мы паспрабуем больш падрабязна разгледзець фактар узросту і абставіны далучэння да беларускага культурнага руху.

8 Тут і далей у табліцах N паказвае колькасць чалавек са спісу, для якіх была даступная адпаведная інфармацыя.

*Генерацыі ды гады нараджэння.* Гэты параметр можа ў пэўнай ступені паказаць, у якім сацыяльным кантэксце нарадзіліся прадстаўнікі беларускага руху, да якой генерацыі іх можна аднесці і ў якіх гістарычных абставінах адбывалася іх першасная сацыялізацыя. Калі аналізаваць гады нараджэння паводле дзесяцігоддзяў, то атрыманыя звесткі сведчаць, што да 1860 года нарадзіліся ўсяго некалькі актыўных ўдзельнікаў культурнага руху канца XIX – пачатку XX стагоддзя (гл. табліцу 3). Толькі восем чалавек нарадзіліся да паўстання 1863–1864 гадоў і такім чынам маглі мець сацыяльны досвед «старой» сістэмы культурных ды палітычных дачыненняў у рэгіёне. У наступнае дзесяцігоддзе адзначаецца паступовае павелічэнне лічбаў – у 1860-я гады нарадзіліся восем беларускіх аўтараў, у 1870-я – дзевяць. Але сапраўдны бум прыпадае на 1880-я гады, калі нарадзіліся 37 актывістаў першай хвалі беларускага культурнага руху, або 40,2 % ад агульнай колькасці разгледжаных дзеячаў. У 1890-х іх нарадзілася ўжо крыху менш – 32,6 %.

Такім чынам, першае беларускае адраджэнне – гэта ў значнай ступені справа людзей, народжаных ў 1880-я гады, сацыялізацыя якіх пачынаецца ў 1890-я. Імаверна, сацыяльныя і эканамічныя, а магчыма, і інтэлектуальныя прычыны беларускага руху як масавай з'явы варта шукаць менавіта ў гэтым перыядзе. Акрамя гэтага атрыманыя лічбы дазваляюць дастаткова дакладна фіксаваць значны генерацыйны разрыў паміж актывістамі, народжанымі да і пасля 1880 года.

Зніжэнне прадстаўніцтва асобаў, народжаных у 1890-я гады, можна патлумачыць блізкасцю да верхняга часавага парогу даследавання, хаця

**Табліца 2. Сацыяльнае паходжанне актыўных удзельнікаў культурнага руху**

| Сацыяльна-прафесійная група | Колькасць | % |
|---|---|---|
| Сяляне | 27 | 35,1 |
| Шляхта | 24 | 31,1 |
| Інтэлігенцыя | 5 | 6,5 |
| Працоўныя | 4 | 5,2 |
| Службоўцы | 4 | 5,2 |
| Леснікі | 4 | 5,2 |
| Мяшчане | 3 | 3,9 |
| Зямельныя арандатары | 3 | 3,9 |
| Святарства | 2 | 2,6 |
| Іншыя (фельчар) | 1 | 1,3 |
| Разам | 77 | 100 |

**Табліца 3. Генерацыі актыўных удзельнікаў культурнага руху (N = 92)**

| Гады нараджэння | Колькасць | % |
|---|---|---|
| 1820-я | 1 | 1,1 |
| 1830-я | 2 | 2,2 |
| 1840-я | 3 | 3,3 |
| 1850-я | 2 | 2,2 |
| 1860-я | 8 | 8,6 |
| 1870-я | 9 | 9,8 |
| 1880-я | 37 | 40,2 |
| 1890-я | 30 | 32,6 |
| **Разам** | **92** | **100** |

прадстаўнікі гэтай узроставай групы на 1918 год мелі ад 18 да 28 гадоў, што нельга назваць маладым узростам для ўключэння ў літаратурную і публіцыстычную дзейнасць. Магчыма, пэўнае значэнне мела характэрнае для пачатку беларускага руху адносна позняе далучэнне да яго, бо інстытуты ранняй сацыялізацыі – сям'я, пачатковая адукацыя, мясцовая супольнасць – гралі малую ролю ў распаўсюдзе нацыянальнай ідэі або ўвогуле адсутнічалі.

*Узрост уключэння ў культурны рух.* Відавочна, што ўзрост уключэння ў актыўную культурную дзейнасць у форме публікацыі твораў на беларускай мове адлюстроўвае не столькі жаданне ды інтэнцыю асобы, колькі даступнасць адпаведнай інфраструктуры. Значнае рэкрутаванне новых аўтараў магчымае толькі пры наяўнасці рэгулярнай выдавецкай дзейнасці і чытацкай аўдыторыі. Пры гэтым можна сцвярджаць, што больш ранняму ўзросту далучэння да руху спрыяе даступнасць і масавасць выданняў. У выпадку беларускай мовы рэгулярныя выданні з'явіліся толькі на пачатку XX стагоддзя, а ўстойлівая літаратурная супольнасць склалася пасля заснавання «Нашай Нівы», якая неўзабаве зрабілася асноўным механізмам рэкрутавання новых аўтараў для беларускай літаратурнай дзейнасці.

У цэлым атрыманыя звесткі пацвярджаюць той факт, што культурнае *адраджэнне* і нацыянальная *ідэя* былі справаю маладых людзей, хаця з'яўленне больш сталых аўтараў не было рэдкасцю. Гэтак, 76 % дзеячаў культурнага руху пачалі публікавацца на беларускай мове ва ўзросце, меншым за 30 гадоў. Самы значны ўзрост рэкрутавання – 21–25 гадоў, дзеячы такога веку складаюць амаль траціну ад агульнай колькасці (32,6 %); затым ідуць асобы, маладзейшыя за 21 год (больш за чвэрць, або 27 %). 16,9 % зрабілі першы ўнёсак у культурны рух ва ўзросце 26–30 гадоў і яшчэ 12,4 % – ва ўзросце 31–35 гадоў. Група дзеячаў, старэйшых за

35 гадоў, складае толькі каля 11% (гл. табліцу 4).

Як бачна, у культурную актыўнасць уключаліся людзі, якія толькі пачыналі прафесійную дзейнасць, а таксама студэнты і выпускнікі. Гэта сведчыць на карысць таго, што асноўным каналам распаўсюду ідэі беларускай культуры і нацыі была прафесійная дзейнасць, непасрэднае прафесійнае атачэнне і камунікацыя праз сістэму вышэйшай адукацыі.

У гэтым кантэксце варта асобна разгледзець аўтараў, якія пачалі беларускую культурную дзейнасць у адносна позным узросце – пасля 40 гадоў. З васьмі асобаў, прадстаўленых у даследаванні, шэсць уключыліся ў літаратурны і культурны працэс у 1880-х і 1890-х гадах. Такім чынам, рэкрутаванне «старых» аўтараў, – хутчэй, феномен самага пачатку адраджэння, калі адносна сталыя людзі пачалі ўключацца ў фармаванне новага культурнага кантэксту пад уплывам палітызацыі этнічнасці.

Гэта, магчыма, адлюстроўвае латэнтныя працэсы фармулявання *беларускасці*, якія да канца XIX стагоддзя не маглі знайсці каналу публічнага выяўлення і цалкам раскрыліся ў культурнай дзейнасці такіх людзей, як Францішак Багушэвіч. Гэта, аднак, не значыць, што ў *адраджэнні* 1880-х і 1890-х актыўныя былі адно прадстаўнікі старой генерацыі, бо яны складалі толькі палову з 13 аўтараў. Тым не менш, позняе далучэнне да літаратурнай дзейнасці характэрнае практычна толькі для XIX стагоддзя. У XX стагоддзі гэта робіцца справаю значна маладзейшай генерацыі.

*Інтэнсіўнасць рэкрутавання*. Аналіз пашырэння культурнага руху па гадах удакладняе некаторыя абставіны і фактары росту руху. Інтэнсіўнасць з'яўлення новых аўтараў у яшчэ большай ступені (у параўнанні з узростам уключэння ў культурны рух) залежыць ад наяўнасці адпаведнай інфраструктуры ў выглядзе выдавецтваў і перыядычных выданняў,

**Табліца 4. Узрост актыўнага ўключэння ў культурны рух (N = 89)**

| **Узрост пры першай публікацыі (на беларускай мове)** | **Колькасць** | **%** |
|---|---|---|
| да 21 года | 24 | 27,0 |
| 21–25 гадоў | 29 | 32,6 |
| 26–30 гадоў | 15 | 16,8 |
| 31–35 гадоў | 11 | 12,4 |
| 36–40 гадоў | 2 | 2,2 |
| 41–45 гадоў | 3 | 3,4 |
| 46–50 гадоў | 1 | 1,1 |
| старэйшыя за 50 гадоў | 4 | 4,5 |
| **Разам** | **89** | **100** |

а таксама больш-менш шырокай чытацкай аўдыторыі. Праведзены аналіз можа быць добрым індыкатарам стану адпаведнай інфраструктуры і яе сувязі з аўдыторыяй.

Калі перыяд даследавання згрупаваць паводле пяцігодак, то сітуацыя выглядае наступным чынам (гл. табліцу 5). Першы прыкметны ўсплёск рэкрутавання прыпадае на другую палову 1880-х і першую палову 1890-х гадоў, калі з'явіліся дзесяць новых аўтараў. На фоне гэтага пачатак 1880-х і другая палова 1890-х выглядаюць няўдалымі, бо ў гэты перыяд з'явіліся толькі два і адзін аўтар адпаведна. Калі такую сітуацыю для 1880-х можна патлумачыць першымі крокамі да стварэння інфраструктуры, то прычыны спаду напрыканцы XIX стагоддзя не такія відавочныя. Агулам у XIX стагоддзі пачалі літаратурную дзейнасць 14,1 % ад сукупнасці, якая трапіла ў наш аналіз.

Пэўнае замаруджванне культурнага руху на зыходзе XIX стагоддзя было часовае; з пачаткам новага стагоддзя гэты працэс набывае лавінападобны характар. 1900-1904 гады далі дзевяць (9,8 %) новых аўтараў, а наступная пяцігодка адкрыла перыяд сапраўднага буму – 28 дзеячаў (30,4 %). У 1910-1914 гадах інтэнсіўнасць з'яўлення новых аўтараў павысілася – 33 асобы (35,9 %). А вось апошняя няпоўная пяцігодка дэманструе зніжэнне агульнага ўнёску да дзевяці чалавек (9,8 %).

Такім чынам, найбольш плённыя для культурнага руху былі 1905–1914 гады, што цалкам натуральна адлюстроўвае змены ў нацыянальнай палітыцы пасля рэвалюцыі 1905–1907 гадоў і з'яўлення беларускага перыядычнага друку, перш за ўсё газеты «Наша Ніва». Пры гэтым хуткі рост колькасці аўтараў адразу пасля з'яўлення новых выданняў сведчыць пра іх запатрабаванасць і адпаведнасць чаканням прынамсі часткі нацыянальнай супольнасці. Першая сусветная вайна і палітычная нестабільнасць пасля яе адмоўным чынам паўплывалі на рост літаратурнай ак-

**Табліца 5. Інтэнсіўнасць рэкрутавання новых аўтараў (N = 92)**

| Гады першай публікацыі | Колькасць | % |
|---|---|---|
| 1880–1884 | 2 | 2,2 |
| 1885–1889 | 5 | 5,4 |
| 1890–1894 | 5 | 5,4 |
| 1895–1899 | 1 | 1,1 |
| 1900–1904 | 9 | 9,8 |
| 1905–1909 | 28 | 30,4 |
| 1910–1914 | 33 | 35,9 |
| 1915–1918 | 9 | 9,8 |
| **Разам** | **92** | **100** |

тыўнасці, што, напэўна, кампенсавалася значнай актывізацыяй палітычнага ўдзелу.[9]

## V. Адукацыя і сфера прафесійнай дзейнасці

*Адукацыя*. Узровень адукацыі звычайна вылучае культурныя эліты і актывістаў культурных рухаў сярод большасці насельніцтва. Практычна ўсе нацыянальныя культурныя рухі ствараліся інтэлектуаламі, дзейнасць якіх мела вялікае значэнне на першых этапах станаўлення і развіцця руху. Паводле вядомай структуралісцкай схемы Міраслава Гроха, гэтую ўніверсальную «культурную стадыю» праходзіў любы нацыянальны рух (Hroch, 2000: 13–14). Цікавасць да народнай культуры, асэнсаванне яе як каштоўнасці, практыкі яе сістэматызацыі ды заснаванне новай традыцыі патрабуюць дастатковага ўзроўню кампетэнцыі. Беларускі нацыянальны рух у гэтых адносінах не быў выключэннем.

Адзін з параметраў, што вылучае актыўных удзельнікаў руху як групу, – даволі высокі ўзровень адукацыі (улічваючы, што доля пісьменных сярод беларусаў на 1897 год была нізкая – 13,5 %).[10] З 85 чалавек, у дачыненні да якіх ёсць адпаведная інфармацыя, больш за траціну (38,8 %) атрымалі вышэйшую адукацыю, што можна лічыць высокім паказнікам (гл. табліцу 6). Як найбольш папулярнае месца навучання трэба адзначыць Санкт-Пецярбург (найперш Пецярбургскі ўніверсітэт), але вучыліся таксама ў Тарту, Маскве, Рызе, Варшаве і Кіеве.

Каля 28 % мелі адукацыю, «вышэйшую за пачатковую», закончыўшы

**Табліца 6. Узровень адукацыі актыўных удзельнікаў культурнага руху (N = 85)**

| Установа завяршэння адукацыі | Колькасць | % |
|---|---|---|
| Універсітэт, інстытут | 33 | 38,8 |
| Духоўная семінарыя | 7 | 8,2 |
| Настаўніцкая семінарыя, вышэйшыя курсы | 5 | 5,9 |
| Гімназія, будаўнічая школа, драматычная школа, ліцэй, мастацкае вучылішча | 12 | 14,1 |
| Вучылішча, народная школа, курсы | 24 | 28,3 |
| Самаадукацыя | 4 | 4,7 |
| **Разам** | **85** | **100** |

9 Свой уплыў меў і кароткі характар перыяду, чатыры гады замест пяці.

10 Агульная доля пісьменных у Беларусі на канец XIX стагоддзя – 25,7 %.

духоўныя і настаўніцкія семінарыі, гімназіі, драматычныя школы і падобныя ўстановы, хаця напрыканцы XIX стагоддзя такі ўзровень адукацыі мела вельмі малая частка беларускага насельніцтва (толькі 8320 чалавек). І толькі 28,3 % дзеячаў беларускага руху атрымалі адукацыю ва ўстановах, якія можна аднесці да ніжняга ўзроўню сістэмы навучання: вучылішчы, народныя школы, курсы і г. д. Самаадукацыя, як паказвае даследаванне, не была пашыранаю з'яваю сярод дзеячаў руху: яна мела месца толькі ў чатырох выпадках (4,7 %).

*Сфера прафесійнай дзейнасці*. Працэс пераходу ад этнічнай або рэгіянальнай свядомасці да нацыянальнай прадугледжвае стварэнне адпаведнай сістэмы камунікацыі, памнажэнне і трансляцыю «веды» пра краіну і нацыю. Розныя сацыяльныя групы адыгрываюць розную ролю ў афармленні такой сістэмы. Звычайна даследнікі нацыяналізму прызнаюць вялікую ролю ў гэтым працэсе інтэлігенцыі/інтэлектуальных элітаў. Значэнне інтэлігенцыі (у розных сэнсах гэтага слова) для беларускага руху канца XIX – пачатку XX стагоддзя было агульнапрынятае і, здаецца, ніколі не ставілася пад сур'ёзны сумнеў. Нашая інфармацыя, на аснове звестак пра 84 літаратараў, збольшага пацвярджае высновы ранейшых аўтараў, але пры гэтым дазваляе ўдакладніць некаторыя істотныя гістарычныя дэталі.

Калі весці размову пра вузкія сферы прафесійнай дзейнасці прадстаўнікоў нацыянальнага руху, то тут асаблівае месца займаюць выкладчыкі/настаўнікі, якія складаюць больш за 26 %. Такім чынам, яны ўяўляюць з сябе найбольш прадстаўнічы пласт беларускага культурнага руху, але значна меншы за палову ад агульнай колькасці дзеячаў. Цікава, што другое месца займаюць службоўцы – 13,1 %, што рэдка адзначаецца даследнікамі праблемы. Іншыя прафесійныя групы складаюць ад 8 да 1 % .

Калі аб'яднаць блізкія прафесіі ў адзін пункт, то сітуацыя робіцца яшчэ больш відавочнаю. Сумарная доля прадстаўнікоў прафесіяў, якія можна аднесці да сферы вытворчасці культуры (настаўнікі/выкладчыкі, навукоўцы, бібліятэкары, акторы, мастакі, выдаўцы, журналісты), складае палову ад агульнага ліку дзеячаў (51,2 %). Пры гэтым варта асабліва падкрэсліць факт (які даследнікі таксама часта прапускаюць), што ў абсалютнай большасці гэта была інтэлігенцыя ў першым пакаленні. Ёй не варта надаваць уласцівасцяў стабільнай сацыяльнай і прафесійнай групы з традыцыямі культурнай і сямейнай пераемнасці,[11] а таксама не варта ўжываць вядомую формулу пра інтэлігенцыю, якая пачала «будзіць» этнічныя масы. Фактычна

[11] Гэтым рух, дарэчы, моцна адрозніваецца ад таго, што мела месца, напрыклад, у 1980-я гады, калі ў беларускім культурным руху было шмат менавіта інтэлігенцыі з паходжання.

першая генерацыя дзеячаў беларускага руху была менавіта сялянамі або шляхтаю, якія «прачнуліся ад этнічнага сну».

Значэнне службоўцаў у шырокім сэнсе – службоўцаў, працаўнікоў пошты, вайскоўцаў – павялічваецца да 20,2 %. Гэта сведчыць, што рух не быў цалкам ізаляваны ад працаўнікоў дзяржаўных установаў, і прыкладна пятая частка яго прадстаўнікоў выйшла з гэтага асяроддзя. Сярод іншых групаў варта яшчэ раз адзначыць невялікае значэнне святароў (толькі 7,1 %), прыкладна столькі ж было працоўных, кваліфікаваных спецыялістаў з розных галінаў,[12] (гл. табліцу 7).

Паказальна, што пры значнасці долі дзеячаў сялянскага і шляхецкага паходжання практычна адсутнічае прадстаўніцтва людзей, якія вярнуліся да заняткаў у сельскай або лясной гаспадарцы ў якасці вяскоўцаў, леснікоў, арандатараў або землеўласнікаў. У нашай групе яны прадстаўленыя адным чалавекам на кожную пазіцыю (разам 2,7 %). Як бачна, уцягнутых у сельскагаспадарчую вытворчасць (не паводле паходжання, але паводле сферы занятасці) было вельмі мала. Прамысловасць прадстаўлялі толькі працоўныя, а фінансавы сектар, хаця б у якой-небудзь форме, не быў прадстаўлены зусім. Са сферы паслугаў у беларускім руху ўдзельнічалі пераважна асобы, што мелі індывідуальную практыку: адвакаты, аптэкары і г. д.

Такім чынам, прафесійную аснову беларускага руху складала інтэлігенцыя, прычым менавіта інтэлігенцыя

**Табліца 7. Асноўная сфера прафесійнай дзейнасці (на першай стадыі далучэння да культурнага руху) (N = 84)**

| **Сфера прафесійнай дзейнасці** | **Колькасць** | **%** |
|---|---|---|
| Культура, навука, адукацыя | 43 | 51,2 |
| Адміністрацыйная служба, пошта | 11 | 13,1 |
| Прамысловасць (працоўны) | 7 | 8,3 |
| Царква, касцёл | 6 | 7,1 |
| Адукацыя (студэнт) | 4 | 4,8 |
| Сельская і лясная гаспадарка | 3 | 3,6 |
| Права (адвакат, юрыст) | 3 | 3,6 |
| Ахова здароўя (аптэкар, лекар) | 2 | 2,4 |
| Іншае | 5 | 5,9 |
| **Разам** | **84** | **100** |

12 Адвакаты, аптэкары, архітэктар, інжынеры, лекары, юрысты.

ў першым пакаленні, для якой траплянне ў пазначаную сферу было вынікам сацыяльнай мабільнасці. Адносна прыкметнаю таксама была актыўнасць службоўцаў і асобаў, звязаных з дзяржаўнымі ўстановамі. Пры гэтым доля ўцягнутых у вытворчую дзейнасць (сельская гаспадарка, прамысловасць, сфера паслугаў) была дастаткова нізкая – 3,6 %, 8,3 %, 6 % адпаведна. Гэтыя звесткі часткова тлумачаць вельмі абмежаваныя магчымасці ў плане прыцягнення фінансавых рэсурсаў для падтрымання і развіцця нацыянальнага руху.

## VI. Працягласць жыцця, прычыны, дата і месца смерці

*Прычыны смерці*. Пры аналізе беларускага руху цікавасць уяўляе не толькі час нараджэння і ўключэння ў культурную і палітычную дзейнасць, але таксама абставіны заканчэння жыццёвага шляху, што дазваляе вызначыць, як удзел у нацыянальным руху паўплываў на лёс чалавека. Найбольш цікавым у гэтым кантэксце ўяўляецца падрабязны разгляд прычынаў смерці. Сітуацыя тут не выглядае нармальна нават з улікам войнаў ды іншых палітычных і сацыяльных катаклізмаў, якія адбываліся ў той час на тэрыторыі Беларусі. Толькі прыкладна 60 % прадстаўнікоў першай хвалі адраджэння памерлі сваёй смерцю – 9,2 % ад хваробы ў маладым узросце і 51,4 % ад натуральных прычынаў у сталым веку. Гэта нельга лічыць высокім паказнікам, нават улічваючы страты насельніцтва падчас войнаў і рэвалюцыяў. Можна сцвярджаць: удзел у нацыянальным руху ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя магчыма кваліфікаваць як значны фактар рызыкі, што павялічваў імавернасць гвалтоўнай смерці. Такі лёс напаткаў амаль 40 % дзеячаў руху (гл. табліцу 8).

**Табліца 8. Абставіны смерці актыўных удзельнікаў культурнага руху (N = 76)**

| **Прычыны смерці** | **Колькасць** | **%** |
|---|---|---|
| Натуральныя прычыны (сталы ўзрост) | 39 | 51,4 |
| Рэпрэсіі (расстрэл, смерць у зняволенні) | 21 | 27,6 |
| Ранняя хвароба | 7 | 9,2 |
| Забойства | 3 | 4 |
| Знікненне | 2 | 2,6 |
| Вайсковыя дзеянні | 2 | 2,6 |
| Самагубства | 2 | 2,6 |
| **Разам** | **76** | **100** |

У адпаведнасці з інфармацыяй, 27,6 % актыўных удзельнікаў руху загінулі ў выніку рэпрэсіяў (расстраляныя або памерлі ў зняволенні), тры чалавекі (3,9 %) былі забітыя з палітычных матываў або памерлі пры загадкавых абставінах, два загінулі на франтах Першай сусветнай вайны (2,6 %). Акрамя таго, сюды можна дадаць самагубствы, відавочна выкліканыя палітычным ціскам і пагрозаю рэпрэсіяў (Усевалад Ігнатоўскі ў 1931 годзе, Зміцер Жылуновіч у 1937-м), а таксам сумнеўны няшчасны выпадак (Янка Купала – 1942 год).

Такім чынам, лёс практычна паловы першай генерацыі беларускіх дзеячаў быў трагічны. Уцягванне ў беларускі культурны і палітычны рух не толькі не спрыяла ўстойліваму павышэнню сацыяльнага статуса і прызнанню заслугаў з боку публічных інстытутаў, але наадварот – часта прыводзіла да негатыўных наступстваў.

*Дата смерці*. Якія ж гады аказаліся найбольш стратнымі для першай генерацыі нацыянальнага руху? Калі аналізаваць паводле дзесяцігоддзяў, то рост смяротнасці пачынаецца з 1910-х, што часткова мела прычынай паступовае старэнне, а часткова было наступствам вайны і рэвалюцыяў (гл. табліцу 9).

У 1920-х гадах, нягледзячы на нарастанне дэмаграфічнага фактару старэння, узровень смяротнасці нават крыху зніжаецца. Значны рост стратаў прыпадае на 1930-я – 20 чалавек (23,3 %), або амаль чвэрць ад агульнай колькасці. Праўда, страты былі не толькі ад рэпрэсіяў, але і ад натуральных прычынаў – народжаныя ў 1880-х гадах пачалі дасягаць пяцідзесяцігадовага ўзросту. Што асабліва цікава, 1940-я, нягледзячы на Другую сусветную вайну, выдаліся практычна аналагічнымі – памерлі 24,4 %. Пры гэтым частка дзеячаў загінула ад рэпрэсіяў перад вайной або пасля яе, а ў выніку

**Табліца 9. Гады смерці актыўных удзельнікаў культурнага руху (N = 86)**

| **Гады смерці** | **Колькасць** | **%** |
|---|---|---|
| да 1900 года | 2 | 2,3 |
| 1900-я | 3 | 3,5 |
| 1910-я | 11 | 12,8 |
| 1920-я | 9 | 10,5 |
| 1930-я | 20 | 23,3 |
| 1940-я | 21 | 24,4 |
| 1950-я | 10 | 11,6 |
| 1960-я | 3 | 3,5 |
| пасля 1970 года | 7 | 8,1 |
| **Разам** | **86** | **100** |

вайсковых дзеянняў жыццё згубілі толькі адзінкі. З 1950-х гадоў страты значна зніжаюцца як у выніку спынення рэпрэсіяў, так і з дэмаграфічных прычынаў. Апошняя прадстаўніца генерацыі, Зоська Верас, памерла сваёй смерцю ў 1991 годзе.

Трэба адзначыць, што, улічваючы абставіны жыцця прадстаўнікоў першага пакалення беларускага руху, дастаткова нізкаю выглядае сярэдняя працягласць жыцця, якая па ўсёй выбарцы складае 46,3 года. Але пры гэтым 22 асобы (25,9 %) дажылі да 70 гадоў, а да 40 гадоў не дажылі толькі 15,5 % (гл. табліцу 10).

Такім чынам, нягледзячы на рэпрэсіі ды іншыя палітычныя абставіны, дзеячы *беларускага адраджэння* збольшага паспелі рэалізаваць сябе і зрабіць прынамсі часткoвы ўнёсак у развіццё беларускай культуры ды палітычнага руху. Калі ўлічыць, што большасць аўтараў далучылася да руху ва ўзросце, меншым за 30 гадоў, то яны мелі прынамсі цэлае дзесяцігоддзе для актыўнай дзейнасці і магчымасць не зрабіцца страчаным пакаленнем, у адрозненне ад тых, хто далучыўся ў 1920-я гады. Рэпрэсіі асабліва моцна закранулі дзеячаў, старэйшых за 40 гадоў. Шмат хто з тых, каму пашчасціла перажыць гэты перыяд, дажыў да старасці.

*Месца смерці.* Прасторавая лакалізацыя завяршэння жыццёвага шляху можа сведчыць пра станоўчыя або адмоўныя ўплывы ўдзелу ў нацыянальным руху для атрымання сацыяльных пазіцыяў на радзіме, пра пазітыўнае стаўленне з боку дзяржавы і грамадства.

Адрозненні ў лакалізацыі пачатку і завяршэння жыццёвага шляху для прадстаўнікоў беларускага руху вельмі значныя. Толькі крыху больш за траціну скончылі жыццё на радзіме (37,2 %), астатнія з тых або іншых прычынаў былі вымушаныя пакінуць Беларусь. Розныя месцы пачатку і завяршэння жыццёвага шляху дзеячаў руху часткова адлюстроўваюць тэндэнцыю ўрбанізацыі, якая адбывалася ў рэгіёне. Хаця часам пераезд у горад меў спецыфічны характар –

**Табліца 10. Працягласць жыцця актыўных удзельнікаў культурнага руху (N = 85)**

| **Працягласць жыцця** | **Колькасць** | **%** |
|---|---|---|
| да 20 гадоў | 1 | 1,2 |
| 21–30 | 5 | 5,9 |
| 31–40 | 7 | 8,2 |
| 41–50 | 17 | 20,0 |
| 51–60 | 15 | 17,6 |
| 61–70 | 18 | 21,2 |
| старэйшыя за 70 гадоў | 22 | 25,9 |
| **Разам** | **85** | **100** |

шмат для каго гарады сталіся месцамі расстрэлу або зняволення.

Самым колькасна значным месцам завяршэння жыццёвага шляху ў Беларусі быў Менск – тут памерлі дзесяць чалавек (для чатырох з іх гэта месца расстрэлу). Іншыя гарады мелі адзінкавае значэнне. Напэўна, гэтыя лічбы нельга лічыць высокім узроўнем, асабліва калі згадаць вялікае значэнне Менска і Менскага павету як месца нараджэння. Наступным важным месцам была Вільня («расійская», «польская» і «літоўская») і яе ваколіцы – тут памерлі восем чалавек, што паказвае значнасць гэтага горада для культурнага руху. Сярод месцаў смерці з натуральных прычынаў Вільня значна апераджае Менск, толькі адзін з васьмі быў забіты. Каля дваццаці асобаў памерлі на малой радзіме або ў мясцовасці, блізкай да месца нараджэння. Галоўным чынам гэта тычыцца тых, хто памер ад натуральных прычынаў да разгортвання савецкіх палітычных рэпрэсіяў. Нейкіх асобных тэндэнцыяў сярод рэшты выпадкаў на тэрыторыі Беларусі не прасочваецца (гл. табліцу 11).

Сярод іншых краінаў са значным адрывам першынствуе Расія – там памерлі 25 чалавек (32,1 %). Гэта практычна раўняецца колькасці смерцяў у Беларусі. Для значнай долі прадстаўнікоў беларускага руху вызначыць дакладны населены пункт завяршэння жыццёвага шляху няма магчымасці, для рэшты гэта Масква і Санкт-Пецярбург (Ленінград). За выключэннем некалькіх чалавек дата смерці адносіцца да перыяду пасля 1930 года. Не менш за 16 з 25 асобаў былі расстраляныя або загінулі ў зняволенні.

Акрамя Расіі значэнне мела Украіна (шэсць чалавек памерлі ў Кіеве, Крыме ды інш.) і Польшча (шэсць чалавек скончылі жыццёвы шлях у Варшаве, Кракаве, Асвенціме). Далёкая эміграцыя не мела вялікага значэння – толькі два чалавекі памерлі ў ЗША.

**Табліца 11. Месца смерці актыўных удзельнікаў культурнага руху (N = 78)**

| **Месца смерці (сучасныя межы)** | **Колькасць** | **%** |
|---|---|---|
| Беларусь | 29 | 37,2 |
| Расія | 25 | 32,1 |
| Вільня і ваколіцы | 7 | 8,9 |
| Польшча | 6 | 7,7 |
| Украіна (у тым ліку Крым) | 6 | 7,7 |
| ЗША | 2 | 2,6 |
| Літва (без Віленскага краю) | 2 | 2,6 |
| Сярэдняя Азія | 1 | 1,2 |
| **Разам** | **78** | **100** |

Такім чынам, геаграфія месца смерці сведчыць пра надзвычай цяжкія наступствы для ўдзельнікаў культурнага руху. Толькі каля траціны дзеячаў памерлі ў Беларусі (праўда, калі дадаць Вільню, то амаль палова), што нельга лічыць высокім паказнікам. Пры гэтым шмат хто быў забіты, расстраляны або загінуў у зняволенні. Другою паводле значнасці краінаю выступае Расія, але ў абсалютнай большасці выпадкаў толькі як месца палітычнага пакарання. Таксама варта адзначыць малое значэнне далёкай эміграцыі для гэтага пакалення.

## Некаторыя высновы

Аналіз біяграфічных звестак дзеячаў беларускага культурнага руху сведчыць пра існаванне пэўнага тэрытарыяльнага арэалу ў цэнтральнай і паўночна-заходняй частцы сучаснай Беларусі, у якім напрыканцы XIX – на пачатку XX стагоддзя назіралася найбольшая інтэнсіўнасць рэкрутавання ўдзельнікаў беларускага культурнага руху. Гэта дазваляе вылучыць у прасторы геаграфічны «цэнтр», «дадатковы пояс» і «ўскраіну» першай хвалі беларускага адраджэння, што дазваляе больш дакладна зразумець яго сацыяльны і культурны кантэкст. Вызначаны рэгіён меў этнічна і рэлігійна змешаны склад насельніцтва і быў на той момант полем значнай канкурэнцыі паміж рознымі нацыятворчымі рухамі. Пры гэтым асноўным фактарам прасоўвання ідэі беларускай нацыі ды культуры быў, хутчэй за ўсё, узровень адукацыі. Таксама варта адзначыць, што пэўная частка гэтай тэрыторыі не ўваходзіць у межы сучаснай Беларусі.

Аналіз сацыяльнага паходжання паказвае, што першая хваля беларускага адраджэння ўяўляла з сябе дастаткова збалансаваную кааліцыю выхадцаў з сялянства, шляхты (галоўным чынам дробнай) ды іншых сацыяльных пластоў. Гэта не дазваляе казаць пра пераважна сялянскі або пераважна шляхецкі характар культурнага руху, але дае магчымасць бачыць у ім складаны і разнародны сацыяльны феномен, які збольшага адпавядаў нацыятворчым мадэлям усяго рэгіёну.

У афармленні беларускага культурнага руху істотным быў генерацыйны разрыў. Амаль 70 % актывістаў нарадзіліся ў 1880-я і 1890-я гады, ранейшыя пакаленні прадстаўленыя фрагментарна. Пры гэтым на беларускай мове дзеячы руху друкаваліся ўпершыню звычайна ва ўзросце ад 21 да 25 гадоў, а таксама да 21 года (разам больш за палову). Але больш сталыя аўтары таксама рабілі свой унёсак. Феномен позняга актыўнага далучэння да культурнага руху (ва ўзросце пасля 40 гадоў) меў месца толькі ў XIX стагоддзі. Прадказальна, што асноўная інтэнсіўнасць рэкрутавання новых аўтараў прыпадае на 1905–1914 гады; гэта можна звязаць з паўставаннем адпаведнае выдавецкае інфраструктуры.

Адукацыйны ўзровень прадстаўнікоў хвалі *беларускага адраджэння* канца XIX – пачатку XX стагоддзя быў дастаткова высокі. Вышэйшую адукацыю мелі больш

за траціну актывістаў, прыкладна столькі ж атрымалі адукацыю, вышэйшую за пачатковую. Паводле прафесійнага складу (на момант пачатку друкавання па-беларуску) відавочна пераважалі прадстаўнікі сферы культуры і адукацыі, якія складалі больш за палову. Відавочна, у гэтым асяроддзі аформіліся асноўныя каналы палітычнай і культурнай камунікацыі. Каля 20 % у гэтай сукупнасці складалі «службоўцы», а рэшта прыпадала на іншыя прафесійныя групы. Пры гэтым практычна не былі прадстаўленыя «сельскагаспадарчы» і «фінансавы» сектары, а з прамысловай сферы паходзіла толькі невялікае кола працоўных. У рух таксама была інтэграваная невялікая колькасць людзей, якія мелі індывідуальную прафесійную практыку (адвакаты, архітэктары і г. д.).

Разгляд абставінаў завяршэння жыццёвага шляху выяўляе дастаткова неспрыяльныя тэндэнцыі. Каля 40% актывістаў культурнага руху загінулі гвалтоўнаю смерцю, больш за чвэрць – у выніку рэпрэсіяў. Сярэдняя працягласць жыцця дзеячаў з нашага спісу склала 46,3 года. Найбольш стратнымі для першай генерацыі беларускага культурнага руху аказаліся 1930-я і 1940-я гады, пры гэтым страты ў выніку ваенных дзеянняў былі адзінкавыя. Але варта адзначыць, што да 40 гадоў не дажылі толькі 15% актывістаў руху, гэта значыць, што большасць з іх усё-такі мела 10–20 гадоў для ўнёску ў «беларускую справу». Таксама варта адзначыць, што каля 25% памерлі ва ўзросце, старэйшым за 70 гадоў. Што тычыцца месца смерці, то відавочна праяўляецца значная тэндэнцыя да перамяшчэння, асабліва выкліканага рэпрэсіямі.

**Літаратура**


1. Абэцэдарскі, Л. (1969). *У святле неабвержных фактаў.* Мінск: Голас Радзімы.
2. Александровіч, С. (1971). *Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX ст.* Мінск: БДУ.
3. Александровіч, С. Александровіч, В. (1978). *Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытыч. матэрыялаў.* Мінск: БДУ.
4. Беларускія пісьменнікі: *Біябібліягр. слоўн. У 6 т.* (1992). Багдановіч, І. і інш. (рэд.). Т. 1. Мінск: БелЭн.
5. Беларускія пісьменнікі: *Біябібліягр. слоўн. У 6 т.* (1993). Багдановіч, І. і інш. (рэд.). Т. 2. Мінск: БелЭн.
6. Беларускія пісьменнікі: *Біябібліягр. слоўн. У 6 т.* (1994). Багдановіч, І. і інш. (рэд.). Т. 3. Мінск: БелЭн.
7. Беларускія пісьменнікі: *Біябібліягр. слоўн. У 6 т.* (1994). Багдановіч, І. і інш. (рэд.). Т. 4. Мінск: БелЭн.
8. Беларускія пісьменнікі: *Біябібліягр. слоўн. У 6 т.* (1995). Багдановіч, І. і інш. (рэд.). Т. 5. Мінск: БелЭн.
9. Беларускія пісьменнікі: *Біябібліягр. слоўн. У 6 т.* (1995). Багдановіч, І. і інш. (рэд.). Т. 6. Мінск: БелЭн.
10. Ігнатоўскі, У. (1925). *Гісторыя Беларусі у XIX і пачатку XX сталецьця.* Менск.
11. Трещенок, Яков (2005). *История Беларуси. В двух частях.* Часть 2. Могилёв: МГУ.

12. Казакевіч, Андрэй (2010). «Канцэпцыі (ідэі) беларускай нацыі ў перыяд незалежнасці, 1990–2009», *Палітычная сфера*, №1: 21–40.
13. Казбярук, У. (1979). Ступені росту: *Беларуская літаратура кан. XIX – пач. XX ст. і традыцыі польскіх пісьменнікаў*. Мінск.
14. Карнейчык, Я. (1969). *Беларуская нацыя. Гістарычны нарыс*. Мінск: Навука і тэхніка.
15. Карский, Евхим (1903). *Белорусы*. Варшава.
16. Каўка, А. (1993) «Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух». *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.* Т. 1. Мінск: БелЭн, 445–448.
17. Кісялёў, Г. (1978). *Пачынальнікі: З гіст. літар. матэрыялаў у XIX ст.* Мінск: Беларуская навука.
18. Лойка, Алесь (1989). *Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд: У 2 ч.* Ч. 2. Мінск: Выш. школа.
19. Радзік, Р. (1995). «Прычыны слабасьці нацыятворчага працэсу беларусаў у XIX–XX ст.», *Беларускі гістарычны агляд*. Сш. 2. Т. 2.: 195–227.
20. Рыціх, А. (1875). *Этнографическая карта Европейской России*. Санкт-Петербург.
21. Сідарэвіч, А. (2007). «Антон Луцкевіч і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада», *ARCHE*, № 9: 192–218.
22. Станкевіч, А. (2008). *З Богам да Беларусі: Збор твораў*. Вільня: Інстытут беларусістыкі.
23. Терешкович, П. (2004). *Этническая история Беларуси XIX – начала XX в.: В контексте Центрально-Восточной Европы*. Минск: БГУ.
24. Туронак, Ю. (2006). «Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі» ў *Мадэрная гісторыя Беларусі*. Вільня: Інстытут беларусістыкі.
25. Турук, Ф. (1921). *Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белорусов*. Москва: Государственное издательство.
26. Шыбека, З. (2003). *Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002).* Мінск: Энцыклапедыкс.
*27. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.* (1993). Біч, М. і інш. (рэд.). Т. 1. Мінск: БелЭн.
*28. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.* (1994). Сачанка, Б. і інш. (рэд.). Т. 2. Мінск: БелЭн.
*29. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.* (1996). Пашкоў, Г. і інш. (рэд.). Т. 3. Мінск: БелЭн.
*30. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.* (1997). Пашкоў, Г. і інш. (рэд.). Т. 4. Мінск: БелЭн.
*31. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.* (1999). Пашкоў, Г. і інш. (рэд.). Т. 5. Мінск: БелЭн.
*32. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.* (2001). Пашкоў, Г. і інш. (рэд.). Т. 6. Кн. 1. Мінск: БелЭн.
*33. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т.* (2003). Пашкоў, Г. і інш. (рэд.). Т. 6. Кн. 2. Мінск: БелЭн.
34. Breuilly, J. (1993). *Nationalism and the State*. Manchester: Manchester University press.
35. Gellner, E. (1996). «The coming of nationalism and its interpretation: the myths of nation and class», in Balakrishnan, G. (ed.), *Mapping the nation*. New York and London: Verso.
36. Hobsbawm, E. (1990) *Nations and Nationalism since 1780: Programme, Myth, Reality*. Cambridge: Cambridge University Press.
37. Hroch. M. (1985). *Social Preconditions of National Revival in Europe*. Cambridge: Cambridge University Press.
38. Hroch, M. (1996). «From the national movement to the fully-formed nation: the nation building process in Europe», in Balakrishnan, G. (ed.), Mapping the nation. New York

and London: Verso.
39. Hroch, M. (2000). «In the National Interest. Demands and Goals of European National Movements in the Nineteenth Centaury», *A Comparative Perspective*. Prague: Faculty of Art Charles University.
40. Pierson, Paul (2004). *Politics in Time. History, Institutions, and Social Analysis*. Princeton: Princeton University Press.
41. Vakar, N. (1956). *Byelorussia. The Making of Nation*. Cambridge: Massachusetts.

**Дадатак 1.**

**Спіс актыўных удзельнікаў беларускага культурнага руху, канец XIX – пачатак XX стагоддзя**

1. Абрантовіч Фабіян
2. Аляхновіч Францішак
3. Аўдзей Вікенцій
4. Багдановіч Максім
5. Багушэвіч Францішак
6. Бірыла Сцёпка
7. Будзька Эдвард
8. Буйло Канстанцыя
9. Бурбіс Аляксандр
10. Бычкоўскі Адам
11. Бычкоўскі Антон
12. Бядуля Змітрок
13. Варонка Язэп
14. Васілеўскі Даніла
15. Верас Зоська
16. Вітан-Дубейкоўскі Лявон
17. Ганчарык Міхаіл
18. Гарун Алесь
19. Гарэцкі Максім
20. Гмырак Лявон
21. Голуб Уладзіслаў
22. Гурло Алесь
23. Дарашкевіч Янук
24. Дварчанін Ігнат
25. Дзяркач Анатоль
26. Драздовіч Язэп
27. Дуж-Душэўскі Клаўдзій
28. Дыла Язэп
29. Ельскі Аляксандр
30. Журба Янка
31. Жылуновіч Зміцер
32. Зязюля Андрэй
33. Зямкевіч Рамуальд
34. Іваноўскі Вацлаў
35. Імшэнік Хведар
36. Каганец Карусь
37. Канчар Яўсей
38. Канчэўскі Ігнат
39. Каравайчык Павал
40. Колас Якуб
41. Купала Янка
42. Ластоўскі Вацлаў
43. Лейка Кандрат
44. Лёсік Язэп
45. Лобік Лявон
46. Луцкевіч Антон
47. Луцкевіч Іван
48. Лучына Янка
49. Лявіцкая Ванда
50. Лявіцкі Язэп
51. Ляўковіч Ілля
52. Мялешка Міхась
53. Нагродскі Зыгмунд
54. Палуян Сяргей
55. Паўловіч Альберт
56. Пачопка Баляслаў
57. Пачопка Янка
58. Петрашкевіч Альфонс
59. Петрукоў Міхаіл
60. Піліпаў Іван
61. Просты Пётра
62. Пяцельскі Сцяпан
63. Радзевіч Леапольд
64. Рак-Міхайлоўскі Сымон
65. Самойла Уладзімір
66. Сваяк Казімір
67. Сваяк Янка
68. Светлячок Янка
69. Семашкевіч Іван
70. Серада Іван

71. Сержпутоўскі Аляксандр
72. Скандракоў Сяргей
73. Смоліч Аркадзь
74. Станкевіч Адам
75. Стары Улас
76. Тапчэўскі Фелікс
77. Тарашкевіч Браніслаў
78. Татур Генрык
79. Трашчкоўская Зоф'я
80. Тукеркес Адам
81. Уласаў Аляксандр
82. Умястоўскі Франц
83. Фальскі Усевалад
84. Фарботка Юзік
85. Хлябцэвіч Яўген
86. Цапрынская Алена
87. Цётка (Пашкевіч Алаіза)
88. Чарноцкі Напалеон
89. Чарнышэвіч Хведар
90. Шантыр Фабіян
91. Шпэт Язэп
92. Шчупак Юзя
93. Шэмет-Палачанскі Ян
94. Эпімах-Шыпіла Браніслаў
95. Ядвігін Ш.
96. Яленскі Пётр